“Народную Волю” выдаюць свабодныя журналісты для свабодных людзей.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадо...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 52 (4304)**

29 чэрвеня 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ

## «Канікулы» не па нашай волі…

Даўно такога не было, каб “Народная Воля” не выйшла два разы ў тыдзень. На жаль, наступны тыдзень у гэтым плане стане выключэннем. З-за пераносу рабочага панядзелка на суботу, святкавання 3 ліпеня Дня Незалежнасці мяняецца вытворчы графік друкарні, экспедыцыі, паштовых аддзяленняў і іншых партнёрскіх структур. Адным словам, рэдакцыя не мае магчымасці даслаць Вам, шаноўныя чытачы, нумар газеты за наступны аўторак. “Канікулы”, як бачыце, не па нашай волі… Парадуем Вас роўна праз тыдзень, у будучую пятніцу.

**Рэдакцыя.**

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

Александр ФЕДУТА

## «А подать сюда Ляпкина-Тяпкина!»

Комитет государственной безопасности демонстрирует всем, включая главу государства: генерал Вакульчик взялся искоренять гидру коррупции. Делает он это лихо, но тихо, отчитываясь о результатах и возводя очередную государственную идеолого-пропагандистскую кампанию в ранг профессионального императива. Дескать, никакой политики – только вот гидре коррупции головы поотшибаем, как и было обещано еще в 1994 году, так что потом можно будет и на заслуженный отдых.

Мне, признаться, это нравится. Пусть лучше спецы генерала Вакульчика охотятся на коррупционеров, чем прослушивают мирных и не слишком далеких оппозиционеров, как делали это отдельные предшественники Валерия Павловича, топившие крыс в ведрах и неудачно организовывавшие предотвращение разбития окон в Доме правительства. Коррупция есть зло, и с ним нужно бороться. КГБ борется. Спасибо КГБ! Жаль, моя теща, подобно многим другим старикам-белорусам, так и не дождалась, когда лекарства будут дешевле, но никто ведь нам и не обещал, что все доживут до этого чудного мгновенья.

Аресты в сфере здравоохранения некоторые коллеги уже именуют «делом врачей». Я назвал бы его делом чиновников от медицины – так вернее. Но, с другой стороны, «дело врачей» – короче и привычнее. Пусть будет так.

Проблема в том, что отшибание голов у гидры медицинской коррупции ничему и никого не научит. Источник этой коррупции – в дикой централизации и монополизации власти в руках чиновников, принимающих решение о закупках оборудования и медикаментов. И сколько ни пугай их арестами, проверками, выволочками и нагоняями, все они давно поняли главное: до тех пор, пока верховная власть не ведет себя согласно заветам сингапурского правителя Ли Куан Ю, ничего не изменится. Откупишься – тебя выпустят на свободу. Причем чем больше ты украл, тем больше у тебя возможности откупиться. И даже совершенно легально. Когда высокопоставленным чиновникам предлагают погасить многомиллионный ущерб, милуют и отправляют «поднимать из руин» то завод, то колхоз, – кто поверит в искренность борьбы с коррупцией всей государственной машины? Нет, я сейчас не о генерале Вакульчике – в его искренность я как раз готов поверить. Я именно обо всем белорусском государстве.

Ну, например. Все понимают: система коррупции в здравоохранении была создана не вчера и даже не позавчера. И в какой-то момент главного куратора этой системы назначают курировать весь социальный блок в правительстве. В ранге вице-премьера. Да, я об экс-министре здравоохранения Василии Жарко. Нет, я не говорю, что он лично брал взятки. Но вы хотите меня уверить в том, что он хотя бы не подозревал о происходящем? Не поверю, господа!

И точно так же я не поверю, что КГБ до назначения Василия Ивановича заместителем председателя не подозревал, что именно происходит в данном ведомстве. Подозревал. Досье по отраслям формируется не один день и не одним человеком. Просто, как мне кажется, разрешили трогать руками эту отрасль именно сейчас.

Но тут же возникает вопрос: почему до сих пор не обнародован список руководителей фирм, систематически выигрывающих тендеры на поставку оборудования в государственные лечебные учреждения. Списки учредителей частных медицинских компаний, которым не мешает (сейчас, по крайней мере, когда их состав несколько откорректирован) Минздрав. Тогда многое станет если и не явным, то по крайней мере ясным. И станет понятно, почему кое-кого повысили в должности именно ДО начала борьбы с коррупцией в системе, которой он так долго, упорно и эффективно руководил. Может быть, именно для того, чтобы лишние вопросы к известным людям не возникали.

Действительно: «А подать сюда Ляпкина-Тяпкина!» Так, чтобы уж всем коррупционерам в белых халатах жарко стало. Нет. Это тот Ляпкин, который правильный Тяпкин. Его мы не трогаем.

А врачи ни при чем. Удивительно, что они еще нас добросовестно лечат – за такие-то нищенские деньги. У меня, вон, язву желудка благополучно вылечили. Спасибо!

*«Народная Воля»*
в **Facebook** *www.facebook.com/nv.online.info*
в **Vkontakte** *www.vk.com/nvonlineinfo*

ПАЛІТКУХНЯ

## Палякоў? Казлоў? Лябедзька?

*8 ліпеня пройдзе справаздачна-выбарны з’езд Аб’яднанай грамадзянскай партыі. Ужо вызначана колькасць дэлегатаў з’езда і названы прэтэндэнты на пасаду старшыні, аднак інтрыга ўсё роўна захоўваецца.*

Учора цяперашні кіраўнік партыі АГП **Анатоль Лябедзька** прыняў удзел у запісе тэледэбатаў кандыдатаў, а сваім калегам па партыі на пытанне, ці азначае гэта, што ён будзе ўдзельнічаць у выбарах, адказаў коратка: *“Я ў гульні. Я – у спісе кандыдатаў. Усё астатняе – 8 ліпеня”.*

У каментарыі “Народнай Волі” палітык раскрыў некаторыя нюансы перадвыбарнай барацьбы.

– На сёння я падтрымліваю ўдзел сярод прэтэндэнтаў, – расказаў Анатоль Лябедзька. – Напярэдадні з’езда яшчэ раз збярэцца Савет старэйшын партыі, у які ўваходзяць **Станіслаў Багданкевіч, Міхаіл Чыгір, Васіль Шлындзікаў, Зінаіда Бандарэнка, Юрый Хашчавацкі, Аляксандр Дабравольскі, Анатоль Паўлаў, Леў Марголін**, і паспрабуюць вырашыць, каб ад АГП быў адзіны кандыдат на выбарах старшыні партыі.

**– Што значыць “ад АГП”?**

– Ад АГП, якая нясе адказнасць за тое, што адбываецца ў партыі і вакол партыі.

**– Я правільна вас разумею: адзінага будуць абіраць з трох кандыдатаў – Васіля Палякова, Мікалая Казлова і Анатоля Лябедзькі? Ганна Канапацкая ўсё ж такі стаіць асобна…**

– У жыцці ўсё магчыма…

НАДВОР’Е

### 3 ліпеня – кароткачасовыя дажджы

Бліжэйшымі днямі істотна пахаладае. Яшчэ сёння будзе горача, удзень +24…+30°С. У **суботу 30 чэрвеня** надвор’е будзе вызначаць атмасферны фронт, услед за якім пачне паступаць халодная паветраная маса з поўначы Скандынавіі.

3 ліпеня – кароткачасовыя дажджы. Уначы +5…+12°С, днём +13…+20°С.

ДАРЭЧЫ

## Выбары пад аб’ектывамі камер

*Прэс-сакратар АГП **Ганна Красуліна** адзначае, што выбары старшыні партыі будуць праходзіць адкрыта і празрыста.*

– Калі хтосьці кажа, што, маўляў, Лябедзька – нязменны кіраўнік вось ужо 18 гадоў, – заявіла ў каментарыі “Народнай Волі” Красуліна, – то я хацела б нагадаць, што, напрыклад, на выбарах ў 2016 годзе журналісты Радыё Свабода вялі прамую трансляцыю падчас галасавання. У аб’ектыве камеры ўвесь час была урна, прычым празрыстая. Падлік галасоў таксама фіксаваўся на відэаплёнку незалежных журналістаў. І зараз выбары будуць праходзіць у такім жа адкрытым рэжыме, ва ўмовах, якія выключаюць любыя фальсіфікацыі. Запрашэнні ўжо разасланы ў СМІ.

Дарэчы, пра тое, што выбарчая кампанія старшыні АГП праходзіць у незаангажаванай абстаноўцы, сведчыць і той факт, што, напрыклад, да правядзення і трансляцыі дэбатаў кандыдатаў члены партыі, прэс-служба не мелі ніякага дачынення. Спецыяльна была запрошана незалежная каманда – вядучыя, аператары. Мантаж праграм таксама праходзіў без удзелу сябраў партыі.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

СТОП-КАДР

## Віншуем!

Уладзімір Сцяпанавіч Ліпскі…

У далёкім 1978 годзе па рэкамендацыі народнага пісьменніка Беларусі Івана Шамякіна быў прызначаны галоўным рэдктарам часопіса “Вясёлка”. І па сённяшні дзень яго творчасць дорыць радасць юным чытачам.

Яго плённае шчыраванне звязана таксама з Беларускім дзіцячым фондам. А колькі душэўнага імпэту запатрабаваў фестываль народнага гумару, які праходзіць у Малых і Вялікіх Аўцюках Калінкавіцкага раёна!

Уладзімір Ліпскі выдаў шмат кніг, аповесцяў, казак, нарысаў. Яго творы змешчаны ў школьных падручніках і розных чытанках. Асобныя кніжкі друкаваліся ў Маскве, Вільнюсе, Кіеве, Кемераве, Ташкенце, Берліне…

Ліпскі – лаўрэат Дзяржаўнай прэміі. А ўчора ён быў у Палацы Рэспублікі сярод тых, каго асабіста павіншаваў Аляксандр Лукашэнка. Уладзіміру Сцяпанавічу прысвоена ганаровае званне “Заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь”.

СЛЫШАЛИ?

## Скоро суд

*“Следственным комитетом принято решение о передаче уголовного дела о гибели Александра Коржича прокурору для направления в суд”,* – сообщили вчера в Следственном комитете.

Как сообщалось, после предъявления трем сержантам окончательного обвинения в доведении до самоубийства рядового Коржича Следственный комитет объявил о завершении предварительного расследования и передаче материалов дела для ознакомления матери погибшего Светлане Коржич и обвиняемым. После изучения материалов уголовного дела (а они составляют более 30 томов) по ходатайству женщины проводились дополнительные следственные действия.

Тело Александра Коржича, который проходил срочную службу с мая 2017 года, было обнаружено 3 октября в подвале здания на территории воинской части в Борисовском районе. Следствие разрабатывало три основные версии: самоубийство, доведение до самоубийства и умышленное убийство.

ГРОШЫ

## Долар расце, еўра падае

*Яшчэ танней еўрапейская валюта каштавала 9 лістапада мінулага года.*

Учарашнія валютныя таргі закончыліся ростам курсу долара, які вырас на 0,0031 рубля да **2,0011** рубля. Зараз амерыканская валюта знаходзіцца на сваім тыднёвым максімуме.

А вось курс еўра абваліўся на 0,0153 рубля да 2,3130 рубля.l

СКАЗАНО!

## Александр ЛУКАШЕНКО:

– …Говоря о независимости страны, мы подразумеваем народ. Наш суверенитет – это люди, которые ежедневно, искренне и честно выполняют свою работу: сохраняют мир и порядок на родной земле, оставаясь образцом мужества и верности служебному долгу; укрепляя экономическую стабильность, трудятся на производствах, стройках, в научных лабораториях, на фермах и полях; обеспечивают социальную поддержку населения, работая в сферах здравоохранения, образования, в общественных организациях; формируют имидж страны своими спортивными победами и достижениями.

ОФИЦИАЛЬНО

## Владимир МАКЕЙ: Беларусь не собирается входить в состав других государств

Глава МИД Беларуси Владимир Макей заявил, что для белорусов независимость и суверенитет – это святые понятия, и Беларусь не собирается входить в состав каких-либо государств. Об этом он сказал в минувший вторник ТАСС, комментируя сообщения в ряде СМИ о том, что Александр Лукашенко не исключил, что экономические проблемы могут привести к потере независимости его страны.

*«Что тут комментировать, вещи лежат на поверхности. Президент Беларуси много раз говорил, что независимость и суверенитет – это святое, ради этого стоит жить и работать на благо страны и народа,* – подчеркнул Макей. – *Что касается каких-то возможных вступлений и вхождений в состав каких-то государств, то об этом не может быть и речи».*

По его словам, Лукашенко просто гипотетически предположил, что *«могло бы случиться, если экономика будет падать, ухудшаться благосостояние страны». «Все зависит от нас, от каждого конкретного человека, а глава государства таким образом обрисовал перспективы, к которым мы не стремимся»,* – сказал министр. По его словам, что касается отношений Беларуси с другими странами, то *«мы будем укреплять наши отношения с Россией, одновременно укреплять отношения с западным вектором, который для нас также исключительно важен».*

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Віктар Масла папрасіў Лукашэнку аб памілаванні?

***Справа затрыманага за карупцыйнае злачынства былога галоўнага ўрача Рэспубліканскай клінічнай бальніцы медыцынскай рэабілітацыі ў Аксакаўшчыне Віктара Масла яшчэ ў студзені гэтага года была перададзена ў пракуратуру, але да гэтага часу не накіравана ў суд. Чаму?***

У апошнія дні, нібы зводкі з фронту, адно за адным прыходзяць паведамленні пра затрыманні ў сферы медыцыны. Супрацоўнікі КДБ затрымалі кіраўніка і некалькіх супрацоўнікаў «Белмедтэхнікі», дырэктара і некалькіх супрацоўнікаў РУП «Цэнтр экспертыз і выпрабаванняў у ахове здароўя», начальніка Гродзенскага абласнога аддзела аховы здароўя. Міліцыя пры атрыманні хабару затрымала галоўнага патолагаанатама Мінска, ёсць інфармацыя, што ў поле зроку праваахоўнікаў трапіў галоўны ўрач Мінскай абласной бальніцы. У суд перададзена справа намесніка галоўнага ўрача Мінскай абласной дзіцячай бальніцы.

У сувязі з гэтым мы зацікавіліся лёсам яшчэ аднаго экс-кіраўніка медыцынскай установы – Рэспубліканскай клінічнай бальніцы медыцынскай рэабілітацыі ў Аксакаўшчыне – **Віктара Масла.** Яго, як і многіх фігурантаў цяперашніх гучных спраў, затрымалі ў працоўным кабінеце яшчэ ў красавіку мінулага года. Пазней КДБ паведаміў, што кіраўніку найбуйнейшай клінікі краіны прад’яўлена абвінавачанне ў крадзежы шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі ў асабліва буйным памеры. То бок па артыкуле, які ўваходзіць у спіс карупцыйных злачынстваў. Прэс-служба Камітэта дзяржбяспекі раскрыла і некаторыя нюансы справы Віктара Масла, паведаміўшы, што Масла *«арганізаваў крадзеж грашовых сродкаў, якія налічваліся падначаленым яму работнікам адміністрацыі ў выглядзе прэміяльных выплат, на суму не менш за 21 тысячу беларускіх рублёў».* Санкцыі, прадугледжаныя гэтым артыкулам, – пазбаўленне волі ад 5 да 12 гадоў з канфіскацыяй маёмасці і пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады або займацца пэўнай дзейнасцю.

Але, як нам удалося высветліць, у снежні мінулага года Віктару Масла была зменена мера стрымання пад падпіску аб нявыездзе. У студзені гэтага года Следчы камітэт справу Масла перадаў пракурору. Але ў суд яна так і не паступіла.

Паводле некаторай інфармацыі, Віктар Масла звярнуўся з хадайніцтвам аб памілаванні да Аляксандра Лукашэнкі. Гэтая практыка досыць распаўсюджана ў Беларусі. Нядаўна, напрыклад, паведамлялася, што Лукашэнка памілаваў таксама затрыманага па карупцыйным артыкуле былога кіраўніка адміністрацыі Ленінскага раёна Мінска **Валерыя Куляша** (і гэта інфармацыя не была аспрэчана). Справа Куляша да суда не дайшла, з прашэннем аб памілаванні ён звярнуўся пасля завяршэння расследавання справы Следчым камітэтам.

Дарэчы, канкрэтнага тэрміну разгляду хадайніцтва аб памілаванні няма, ён можа быць розны – і месяц, і два, і тры, і паўгода... Калі прэзідэнт прымае станоўчае рашэнне, то справа спыняецца.

Магчыма, Віктар Масла пазбегне суда і з іншай прычыны – да яго будзе ўжыта эканамічная амністыя. Гэта вызваленне ад крымінальнай адказнасці згодна з артыкулам 88 Крымінальнага кодэкса, калі абвінавачаны вызваляецца ад крымінальнай адказнасці ў сувязі з добраахвотным пакрыццём прычыненай шкоды, а таксама выплачвае суму даходу, якую ён атрымаў злачынным шляхам. І гэта таксама працэдура не аднаго дня, як правіла, патрабуецца час, каб памер шкоды быў узгоднены з абвінавачаным.

Дарэчы, Віктар Масла, выйшаўшы на волю пад падпіску аб нявыездзе, мае права працаваць, нават нягледзячы на тое, што крымінальная справа ў дачыненні да яго не спынена. Аднак былыя калегі Віктара Іванавіча па клініцы ў Аксакаўшчыне не ведаюць, працаўладкаваўся іх былы кіраўнік ці не. Ва ўсякім выпадку на ранейшым месцы працы ён не з’яўляўся. 11 чэрвеня Рэспубліканскую клінічную бальніцу медыцынскай рэабілітацыі ў Аксакаўшчыне ўзначаліў **Дзмітрый Страздзін**.

Звязацца з Віктарам Масла не атрымалася, не ідзе на кантакт з прэсай і яго жонка, **Інеса Масла**, якая доўгі час узначальвала ўпраўленне аховы здароўя Мінаблвыканкама (у яе бытнасць кіраўніком у будынку аблвыканкама павесілася фельчар з Жодзіна, якую абвінавачвалі ў смерці 18-гадовага юнака). Цяпер Інеса Браніславаўна працуе дырэктарам Рэспубліканскай навуковай медыцынскай бібліятэкі.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

ПРАТЭСТ

# На ўвесь рэстаран адзін наведвальнік

*Карэспандэнт "Народнай Волі" трымаў варту разам з абаронцамі Курапатаў…*

Перамоў паміж уладальнікамі сумна вядомага рэстарана "Паедзем паядзім" і актывістамі, якія нясуць варту, пратэстуючы супраць дзейнасці забаўляльнай установы паблізу ад урочышча Курапаты, не будзе.

Прынамсі пакуль.

Нагадаем: інфармацыя аб правядзенні "круглага стала" з удзелам уладальнікаў рэстарана і прадстаўнікамі грамадскасці з'явілася на пачатку бягучага тыдня. Агучыла яе кіраўніцтва Партыі БНФ.

Самі пратэстоўцы, у тым ліку і адзін з каардынатараў акцыі пратэсту – сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя" **Павел Севярынец,** назвалі яе з'яўленне "інфармацыйным укідам". Так у рэшце рэшт і атрымалася.

Спачатку датай правядзення "круглага стала" называлася 27-е, потым 29 чэрвеня. Аднак пазней "раптам" высветлілася, што ў гэтыя даты адзін з уладальнікаў "Паедзем паядзім" – бізнесмен Леанід Зайдэс – знаходзіцца ў замежнай камандзіроўцы. Чакаецца, што Зайдэс вернецца ў Беларусь на наступным тыдні і тады, магчыма, будзе ўзгоднена новая дата правядзення перамоў.

Тым часам пратэст у саміх Курапатах трывае. Карэспандэнт "Народнай Волі" выехаў да пратэстоўцаў, каб на свае вочы пабачыць, колькі абаронцаў Курапатаў нясуць вахту каля рэстарана, ці многа людзей прыязджае падсілкавацца ў "Паедзем паядзім".

…Ля брамы рэстарацыі мяне сустрэлі крыху больш за дзясятак актывістаў. Ніна Багінская з бел-чырвона-белым сцягам у руках, Наталля Гарачка, Павел Севярынец… Рэжысёр Аляксей Туровіч – адзін з самых актыўных абаронцаў Курапатаў – раздае тым, хто пад'язджае, буклеты, у якіх выкладзены гістарычныя факты. Вось толькі адзін з іх: "У 1937–1941 гадах у Курапатах супрацоўнікі НКУС расстралялі каля 200.000 чалавек". Ці не дастаткова гэтага для таго, каб паабедаць у іншым месцы беларускай сталіцы?

– *Увогуле, машын з патэнцыяльнымі наведвальнікамі зусім мала*, – распавядае Туровіч. – *Тры-чатыры ў дзень. Большасць кіроўцаў, калі дазнаюцца, што гэта за месца, разварочваюць свае аўто і з'язджаюць. Ёсць, канечне, і такія, хто, нягледзячы ні на што, спрабуе патрапіць у рэстаран, нават ігнаруючы правілы дарожнага руху.*

На вачах аўтара гэтых радкоў да рэстарана пад'ехала машына "хуткай" і з'явіліся супрацоўнікі ДАІ. Медыкі аказвалі неадкладную дапамогу актывісту Леаніду Кулакову, які трапіў пад колы аўто адной з наведвальніц "Паедзем паядзім". У выніку Кулакова забралі ў шпіталь, дзе дыягнаставалі пералом рукі. Даішнікі, як і належыць, склалі пратакол аб дарожна-транспартным здарэнні… Чым скончыцца разбор гэтага інцыдэнту, не вядома, але не выключана, што ў выніку віноўнікам ДТЗ будзе прызнаны сам Кулакоў. На яго, як і на многіх іншых, хто нясе варту ў Курапатах, рэгулярна складаюцца пратаколы якраз за парушэнне ПДР. Пратэстоўцы кажуць, што лік пратаколаў падбіраецца да сотні…

Было б няправільна, знаходзячыся на месцы супрацьстаяння, не патрапіць і ў сам рэстаран. Праўда, зрабіць гэта можна толькі пасля таго, як ахоўнік рэстарана дасць "дабро". Калі я паспяхова прайшоў "фэйс-кантроль", вартавы прамовіў у рацыю: "Сустракайце госця". Але да таго, як мяне сустрэлі ўнутры, удалося агледзець прылеглую да рэстарана тэрыторыю.

На летняй тэрасе наведвальнік, запіваючы хачапуры півам, глядзеў на курапацкія крыжы, якія добра бачны з-за плота. Ці лезе кавалак у горла ў такой абстаноўцы – пытанне рытарычнае. Тут жа непадалёк – гасцявыя домікі, дзе, паводле слоў супрацоўніцы рэстарана, можна адпачыць разам з сям'ёй і дзецьмі. Аднак жадаючых прывесці сюды дзетак не заўважана. Гасцявыя домікі пустуюць.

Унутры самога рэстарана бязлюдна. Ніводнага наведвальніка. Дзеля справядлівасці скажам: унутры ўтульна і прыгожа. Але, на мой суб'ектыўны погляд, гэта магілкавая ўтульнасць…

Што ж будзе ў Курапатах далей?

Сёння, 29 чэрвеня, там будзе па меншай меры падзейна. З ранку актывісты плануюць усталяваць некалькі новых крыжоў якраз недалёка ад уваходу ў рэстаран. Далей там чакаюць высокіх гасцей з еўрапейскіх краін, якія наведаюць Беларусь для ўдзелу ў мерапрыемствах, прысвечаных адкрыццю другой чаргі мемарыяла ахвяр нацызму ў Трасцянцы.

Ці паўплывае з'яўленне высокапастаўленых чыноўнікаў еўрапейскіх дзяржаў у Курапатах на канчатковае вырашэнне канфлікту, сказаць складана.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ПАРАЎНАЕМ!

# Розныя рысы беднасці

Учора канал Euronews паведаміў, што ў Італіі звыш 5 мільёнаў грамадзян знаходзяцца за мяжой беднасці. Гэта кожны дзясяты жыхар краіны.

У той жа час у Беларусі, паводле афіцыйнай статыстыкі, скарачаецца колькасць людзей, якія жывуць за мяжой беднасці. Нядаўна апублікаваныя афіцыйныя дадзеныя такія: у першым квартале гэтага года такіх беларусаў было каля 531 тысячы, альбо 5,6% насельніцтва, годам раней за рысай беднасці знаходзілася 5,8% жыхароў краіны, або каля 551 тысячы чалавек.

Але што значыць рыса беднасці ў Беларусі і ў Італіі?

У нашай краіне гэта вызначана даволі канкрэтна. За мяжой беднасці аказваюцца тыя, хто штомесяц мае суму, меншую за бюджэт пражытачнага мінімуму. У першым квартале 2018 года БПМ складаў 203,4 рубля, або каля 88 еўра ў пераліку па афіцыйным курсе.

У Італіі, як і ва ўсіх краінах ЕС, да тых, хто жыве за мяжой беднасці, адносяць грамадзян, чый прыбытак складае менш за 60% ад сярэдняга паказчыка ў краіне пражывання, пры гэтым улічваюцца таксама і ўсе сацыяльныя выплаты. Зыходзячы з гэтых дадзеных і вызначаюцца парогавыя сумы беднасці, прычым яны адрозніваюцца нават па рэгіёнах адной і той жа краіны.

Так, напрыклад, лічыцца, што ў сталіцы Італіі Рыме за парогам беднасці жывуць тыя, хто мае ў месяц менш за 787 еўра, у Неапалі – 610 еўра.

Дарэчы, у свой час Сусветны банк увёў такі паказчык, як абсалютная беднасць. У такую катэгорыю трапляюць тыя, чый штодзённы даход не перавышае аднаго долара ЗША.

І аказваецца, што ў нашай сацыяльна арыентаванай дзяржаве каля 28,5 тысячы чалавек у кроку ад таго, каб апынуцца ў такім жахлівым становішчы.

Справа ў тым, што ў Беларусі на афіцыйным узроўні вызначаецца колькасць грамадзян, чый даход штомесяц складае палову БПМ і менш. Зараз гэта ўсяго толькі 101,7 рубля, або каля 50 долараў і менш. Значыць, штодзённы даход у такіх беларусаў 1,6 долара. Прычым у першым квартале 2017 года тых, хто жыў на ганебную палову ад бюджэту пражытачнага мінімуму, было каля 19 тысяч чалавек, а ў першым квартале гэтага – ужо 28,5 тысячы чалавек.

Цікава, што такіх бедных беларусаў, паводле статыстыкі, няма ў Мінску, а таксама ў Гродзенскай і Брэсцкай абласцях. Больш за ўсё іх пражывае ў Гомельскай (1,1% насельніцтва, або амаль 15,6 тысячы чалавек), а таксама ў Магілёўскай (0,4%, або 6,3 тысячы чалавек) абласцях.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Сямён ШАПІРА:
# «Тут і мая віна…»



Былы кіраўнік Федэрацыі хакея распавёў "Народнай Волі" пра сваю адстаўку і будучыя планы.

Учора **Сямён Шапіра** падаў у адстаўку з пасады старшыні Федэрацыі хакея Беларусі. У гэтым крэсле ён адпрацаваў каля года, але пасля вылету нацыянальнай зборнай з элітнага дывізіёна вырашыў пакінуць федэрацыю. Новым кіраўніком абраны былы хакеіст Генадзь Савілаў, які зараз займаецца бізнесам і гуляе ў аматарскай камандзе Аляксандра Лукашэнкі.

**– Сямён Барысавіч, многія балельшчыкі на форумах ацанілі ваш "мужчынскі ўчынак" і пішуць, што гэта вельмі годны крок. Калі вы прынялі рашэнне пакінуць пасаду?**

– Выступленне зборнай на чэмпіянаце свету – сорам і ганьба. Не хапала здароўя глядзець, як гуляюць нашы хакеісты… А я ж быў кіраўніком федэрацыі і таксама нясу за гэта адказнасць. Таму якое яшчэ магло быць рашэнне? Калі ў цябе нічога не атрымліваецца, то трэба сыходзіць. Гэта, безумоўна, непрыемна, але менавіта такім прынцыпам я кіруюся ў жыцці.

**– Думаю, што да правалу зборная ішла ўжо даўно, а вы проста апынуліся не ў той час і не ў тым месцы…**

– Мая віна тут таксама ёсць, і я гэта прызнаю. Дрэнна спрацаваў з галоўным трэнерам зборнай Дэйвам Льюісам і настаўнікам мінскага "Дынама" Гордзі Дуаерам. Апошні, як высветлілася, трэніруе клуб і зусім не думае пра інтарэсы нацыянальнай каманды. Я яго прасіў, каб беларускія хакеісты-зборнікі больш гулялі ў "Дынама", але… Мы трэніравалі канадцаў, шведаў, а сваіх трымалі ў запасе. Я прасіў Дуаера, угаворваў, але, відаць, у мяне і ў яго былі розныя задачы. Таму галоўны трэнер "Зубраў" таксама прыклаў руку да вылету зборнай з эліты.

**– Вы не маглі ўплываць на галоўнага трэнера зборнай?**

– Мог, але кантракт быў складзены такім чынам, што калі яго звольніць раней часу, то трэба было б яму выплаціць вялікія грошы.

**– На канферэнцыі вы распавядалі пра п'янства асобных хакеістаў…**

– Былі такія факты, я ж не ўтойваю гэта ад грамадскасці. Напрыклад, прыходзіць 20-гадовы хлочык на прагляд у зборную, а ў яго 0,75 праміле алкаголю ў крыві. Сорам! Але прозвішчы хакеістаў адмыслова не называю, бо, можа, гэтыя людзі яшчэ возьмуцца за розум і будуць гуляць за краіну.

**– Не шкадуеце, што год адпрацавалі ў федэрацыі?**

– Любы перыяд нашага жыцця – гэта заўсёды карысна. Гэта і вопыт, і новыя веды, і новыя знаёмствы, і самаацэнка.

**– Чым зараз плануеце займацца?**

– А я ўжо займаюся. Паліваю дрэвы ў вёсцы, дзе ў свой час быў старшынёй калгаса.

**– Што далей?**

– Час пакажа, нешта будзе…

**Алесь СІВЫ.**

ЗВАНЫЙ ГОСТЬ

# Пепел и пафос Тростенца

Сегодня в урочище Благовщина открывается вторая часть мемориального комплекса «Тростенец». В официальной церемонии принимают участие президенты Беларуси, Германии, Австрии, представители дипмиссий, другие высокие гости.

В годы Второй мировой войны Тростенец был самым крупным лагерем смерти на территории не только нашей страны, но и всего бывшего СССР. Конкретно урочище Благовщина – расстрельное место огромного концлагеря. Там погибали евреи, которых сюда массово свозили из Западной Европы. Строители, возводившие мемориал, обнаружили в Благовщине слой пепла толщиной в метр.

Первый поезд с тысячей депортированных из Вены евреев прибыл в Тростенец 11 мая 1942 года. Людей свозили на убой, хотя некоторых сначала использовали для принудительного труда. Но потом все равно уничтожали в Благовщине. Так же как и белорусских евреев, подпольщиков и всех, кто оказывал сопротивление нацистам в Минске. Здесь покоятся останки около 200 тысяч жертв.

Комбинат смерти. Два черных слова в мировой истории.

Сегодняшний собеседник «Народной Воли» – скульптор **Константин КОСТЮЧЕНКО,** автор композиции «Врата памяти», которой открывается весь скорбный мемориал «Тростенец».



**– Константин, у вас, молодого человека, Великая Отечественная война связана с личными ассоциациями? Или ваши чувства к тем трагическим событиям питаются общими историческими знаниями?**

– Оба моих деда участвовали в войне. Один, по отцу, воевал в регулярной армии и получил в боях серьезное ранение на всю жизнь. Второй совсем пацаном попал в партизанский отряд.

**– Партизанское движение в Беларуси было организовано по решению Москвы, и сейчас раздаются голоса, что если бы не партизаны, то не было бы столько жертв.**

– Беларусь не единственная страна в Европе, где было развернуто партизанское движение сопротивления. И еще: задним умом легко говорить и критиковать. Легко и кощунственно. Кому-то просто выгодно коверкать историю.

**– Впереди 3 Июля, День освобождения Минска и День Независимости Беларуси. В столице будет парад. Как вы относитесь к военному пафосу?**

– Даты 3 Июля, 9 Мая – они навсегда, вне времени. Тем более для страны, которая потеряла треть населения. Конечно, праздновать есть что: окончание страданий военного лихолетья. В какой форме праздновать? Дискуссии о парадах идут ежегодно, но в них опять-таки столько политиканства! Люди рассуждают не от сердца, а от политической выгоды. Средства массовой информации, хочешь не хочешь, – это рупор, это оружие, и им часто пользуются в узких политических интересах. В любом случае в обществе должна сохраняться память.

**– А почему мы, собственно, боимся пафоса? Да, это сильное средство, но жить без него невозможно. Человека надо доставать из обыденности, в том числе и торжественными парадами.**

– Да, для военных эти парады важны, они готовятся, показывают себя. Есть армия – должны быть и парады. Этот театр существует со времен египетских фараонов.

**– Когда вы создавали свои «Врата памяти», скажите, что вы чувствовали? И вообще, может ли сегодняшний счастливый человек понять того, кто оказался в концлагере, на краю смерти?**

– Есть фото и видеосъемка концлагерей и их обитателей – не обязательно Тростенца. Смотришь – вживаешься. И понимаешь весь ужас событий. Я старался выложиться по максимуму. Подготовка к проекту заняла очень длительное время. Другое дело – насколько возможно и нужно выражать ужас и боль в искусстве?

**– То есть, по вашему мнению, ввергнуть зрителя в дьявольский мрак – это не задача искусства?**

– Я создавал реквием. Философское рассуждение. В конце концов, это тонкая материя – работа с психикой зрителя, с чувствами людей.

**– Вы не ставили музыку, когда придумывали «Врата»? Есть в вашей скульптуре могучая полифоничность… Что вам помогало кроме знаний и таланта?**

– Начну издалека. Мне посчастливилось после окончания Академии искусств учиться в академических мастерских, которыми руководил народный художник Михаил Андреевич Савицкий. На каждую специальность – живопись, графика, скульптура – каждый год набирался всего один человек. Он получал мастерскую, небольшие «натурные деньги» на материалы и модель и даже стипендию. Моим руководителем стал народный художник БССР скульптор Лев Гумилевский.

В течение трех-четырех лет каждый из нас разрабатывал какой-то большой проект, который потом мог быть реализован как серьезный памятник. Разработку Тростенца я со своим куратором начал еще в



2006–2007 годах. А в 2010-м эскиз выставил на конкурс, объявленный Министерством культуры. Вообще, жаль, что академические мастерские были закрыты.

**– Может быть, это связано с тем, что ушли наши большие мастера – Савицкий, Поплавский? И уровень мастерских обмельчал…**

– Конечно, в свое время мастерские держались великим авторитетом Михаила Андреевича. Он ушел, и появилось много желающих схватить этот лакомый кусок. Но мы все – профессора академии, известные педагоги и художники – до сих пор мечтаем, чтобы мастерские вернулись к жизни.

**– Возвращаясь к «Вратам памяти» – какое главное чувство все-таки вы хотели вызвать у сегодняшнего человека у их подножия? Может быть, очищение?**

– Даже без памятников это место действует и действовало всегда, если ты хоть что-то знал о Тростенце. У меня как автора, повторю, не было задачи возбудить ужас. Правда в том, что люди, попадавшие в концлагеря, не переставали надеяться на освобождение. На жизнь и спасение. Это важно. Очень большое влияние на мою работу оказал Михаил Андреевич Савицкий, который сам побывал в концлагере – это общеизвестный факт. Когда он заходил ко мне в мастерскую, чтобы посмотреть на работу, можно было без слов понять, как и что. Он рассказывал, что люди за проволокой были очень разные: кто-то сломленный, умирающий, а кто-то полный сил и надежд. Однозначной психологической ситуации – ожидания смерти – как раз и не было. А был богатый спектр эмоций и чувств. Савицкий говорил, что было бы примитивно показывать эти события одними страданиями.

**– Вы бывали за границей в подобных мемориалах?**

– Да, Освенцим, Катынь.

**– А вас не коробил слишком большой людской поток в этих местах? Потому что если поток, то скорбь уступает место туризму: человеку нужна вода, пирожок, место отдыха – пауза!**

– Жизнь, понятное дело, продолжается, и не цель подобного мемориала заставить безостановочно рыдать. Цель – отдать дань памяти. Еще шел монтаж, а в Тростенец уже приезжали автобусы с немецкими туристами. Конечно, немцы проделали большую работу с национальной памятью, чтобы искупить свою вину.

**– Все, что касается смерти и спасения, нам через десятилетия кажется невероятным. Как вы думаете, мы еще долго будем ставить памятники войне?**

– Наша территория была определена нацистами как территория для массовых убийств. Конечно, такое место, как Тростенец, будь оно в Европе, давно было бы отмечено мемориалом. Но мы создаем его только сейчас – и не потому, что раньше не знали, забыли или не хотели. Просто потому, что, к сожалению, у нас в стране много подобных скорбных мест, которые до сих пор стоят без памятных знаков. В стране нашей их просто огромное количество.

**– Зато вся Беларусь буквально покрыта памятниками Ленину. Если в Минске это произведение искусства, то в райцентрах много, извините, мусора. Разве не так? Не пора ли избавиться от плохих работ? Без гнева и пристрастия, как говорится.**

– Честно говоря, в свое время плохих, «конфетных» художников к скульптурным или живописным портретам Ленина не допускали. Это во-первых. Во-вторых, в Европе тоже много памятников вождям и военачальникам, чья роль в истории того или иного государства не была однозначной. Но люди не отказываются: было и было. Прожили. Памятник – это не столько человек, который изображен, сколько отражение культуры того периода. Все уберем, снесем и опять начнем с чистого листа? Нет, должен быть след прошлого. И, поверьте, через 100, а тем более 200 лет к нашему прошлому будут совершенно по-другому относиться.

**– Но я говорю в данном случае о памятниках низкого художественного уровня…**

– Ну, к сожалению, от этого действительно трудно избавиться. Даже сейчас некоторые памятники, которые появляются в городе (и, заметьте, не Ленину), и то вызывают очень большой вопрос, если говорить об их художественных достоинствах. И так во всем мире. Для многих арт-объект – это прежде всего деньги и потом уже качество, глубина образа… Поэтому некоторые работы так и не становятся произведениями искусства.

**– А вот городские камерные скульптуры Жбанова... Сначала в городе они выглядели как открытия, а потом стали штампами.**

– Владимир Иванович Жбанов был моим преподавателем в училище на третьем курсе. Каждый художник имеет свой стиль, от этого никуда не денешься. Он стал делать свои работы в переходный период от советского искусства к рыночному, и они вызывали неподдельный интерес. Они были «западнее», что ли, они лучше «реагировали» на людей, на горожан. Ведь в советском Минске, и не только в нем, но и на всем постсоветском пространстве, было мало художественного оформления. И тут появляются работы Владимира Ивановича… Другое дело, что он был один, без конкурентов, и через какое-то время стало казаться, что Жбанова в городе много. На самом деле его скульптуры и сейчас не помешали бы пространству, потому что сделаны в жанре игры со зрителем.

**– Вы видели три проекта мемориала в Куропатах, которые сейчас обсуждаются? У вас есть предпочтения?**

– Видел, но говорить об этом не могу, так как сам был участником конкурса. Правда, моя работа в лидеры не вышла, поэтому кого-то критиковать теперь будет неэтично. Тем более что раскритиковать можно любое произведение искусства. Но задача-то в другом: выбрать наиболее эмоциональный проект.

**– Как вы думаете, чем закончится противостояние у ресторана в Куропатах?**

– Сложно предугадать… Согласившись на ресторан, мы как будто забываем о жертвах, оставшихся в прошлом.

**Елена МОЛОЧКО.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
29 ЧЭРВЕНЯ 2018 г.

ЛЁС ЧАЛАВЕКА



# «Я працую для будучыні…»

## Згадкі пра бацьку

*Сёлета 8 чэрвеня пайшоў у іншы свет Міхась Мушынскі, выдатны вучоны, даследчык айчыннай літаратуры, найлепшы ў краіне знаўца творчасці Якуба Коласа, Максіма Гарэцкага, Міхася Зарэцкага.*

*Чаму паэт Уладзімір Дубоўка з захапленнем пісаў пра яго манаграфію?*

*За што яго ўхвалялі Васіль Быкаў і Янка Брыль?*

*З якой мэтай прыйшоў навуковец да Івана Антановіча?*

*Пра гэта "Народнай Волі" распавядае дачка Міхася Іосіфавіча, пісьменніца* ***Таццяна Мушынская****.*

Пісаць пра ўласнага бацьку і проста, і складана. Проста, бо сабралася безліч уражанняў за дзесяцігоддзі амаль штодзённых стасункаў. Складана за пабытавымі дэталямі, асобнымі сказамі не згубіць сутнасць, убачыць маштаб. Нават пералік ягоных "тытулаў" і праяў грамадскага прызнання ўражвае. Член-карэспандэнт Акадэміі навук, доктар навук, прафесар, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі. Пэўны час – старшыня Экспертнага савета ВАК па філалогіі. Па сутнасці, стваральнік навуковай школы, звязанай з тэксталогіяй і выданнямі класікаў. Ён заўжды меў высокі аўтарытэт і бездакорную навуковую рэпутацыю.

Бацька пражыў доўгае па цяперашніх мерках жыццё – 87 гадоў, паспеў за гэты час неверагодна многа – хапіла б на біяграфіі некалькі значных асоб. Але заўжды хочацца, каб дарагія людзі жылі доўга, а мо вечна. Мама ўспамінаў пра яго хапіла калі б не на раман, дык на аповесць дакладна. Але цяпер толькі асобныя штрыхі, якія абмалёўваюць характар і рэаліі жыцця Міхася Мушынскага і якія наўрад ці ведае шырокі чытач.

### Лес, суніцы і сала

Першыя восем гадоў сумеснага жыцця бацькі пражылі на Грушаўцы, у звычайнай вясковай хаце. Па-руску яе называлі "времянкой". Месціся ў тым доме два пакойчыкі вакол немаленькай печкі. Ваду трэба было насіць з калонкі, прыбіральня– "шпакоўня" на вуліцы. Там нарадзіліся я і малодшы брат.

У 1964-м сям'я атрымала кватэру ў Зялёным Лузе. У паўпустой прасторы не хапала неабходнай мэблі. Тым не менш бацькі купілі піяніна, каб дачка займалася музыкай, і выплачвалі яго ў растэрміноўку. Бацькі прадбачылі, што з музыкай будзе звязана ўсё маё наступнае жыццё.

За сучаснай вуліцай Сядых было невялічкае балотца. Далей калгаснае поле, дзе сеялі пшаніцу і кукурузу. Ля самага лесу – хаты вёскі Падбалоцце. Цяпер на тым месцы вуліцы Карбышава і Цікоцкага, шматпавярховікі Зялёнага Луга-5. За вёскай пачынаўся лес. Не прыгарадная зона, а сапраўдны лес. Бацька часта тымі сцежкамі хадзіў. І сам, і мы разам з ім. Лес заўжды быў для яго, чалавека, які нарадзіўся ў вёсцы і ўнутрана, па сутнасці ніколі не адрываўся ад зямлі і здаровай сялянскай псіхалогіі, чымсьці асаблівым. Велізарныя гонкія сосны, смолкі дух, цішыня – усё гэта гаючая прастора, месца шматгадзінных прагулак. Шукалі суніцы і чарніцы, гойдаліся на гамаку. Збіралі сухое галлё, раскладвалі вогнішча, пяклі бульбу. Бацька на агні смажыў скрылёчкі сала. Зімой неадноўчы ганялі з ім у лесе на лыжах. Унутры сям'і заўжды было цёпла і радасна.

### «Як замежны карэспандэнт»

Мы з братам былі малыя, калі тата купіў кінакамеру, аматарскую, 8-міліметровую, а таксама праектар і экран. Ён перыядычна набываў плёнку, спачатку чорна-белую, потым каляровую. Здымаў сям'ю, жонку, дзяцей, вечарыны ў школе, дзе працавала мамa, урачыстыя лінейкі ў класах, дзе вучыліся я і брат, калег у Інстытуце літаратуры, абароны дысертацый, урачыстасці, дні нараджэння…

Праяўляў чорна-белую плёнку сам, у ванным пакоі, каляровую, складаную для апрацоўкі, адносіў у майстэрню. Прагляды фільмаў заўжды ператвараліся ў свята. Не толькі сямейнае. Адночы бацькі зрабілі невялікі фільм пра юбілей адной з настаўніц мамінай школы. Агучылі музыкай, мама чытала закадравы тэкст. Потым "на прэм'еру" дадому запрасілі маміных калег. Гэта было так нязмушана, весела і захапляльна! Праз шмат гадоў аднакласнікі цікавіліся: "А помніш, твой бацька прыходзіў да нас у клас і здымаў? А плёнкі захаваліся? А іх можна паглядзець?"

Пачала я займацца балетам, і тата прыйшоў з камерай на заняткі ў студыю Палаца прафсаюзаў. Пазнаёміўся з кіраўніцай, балерынай Аляксандрай Нікалаевай, здымаў нашы рэпетыцыі і канцэрты. Яму гэта здавалася вельмі цікавым! А наяўнасць таты-кінарэжысёра і апаратура (у адной асобе) неверагодна ўздымае твой рэйтынг. Колькі гадоў таму ў інтэрнэце прачытала меркаванне даўняй знаёмай бацькі: маўляў, малады Мушынскі з кінакамерай заўжды нагадваў ёй карэспандэнта замежнага выдання. Трапна! Відаць, нагадваў таму, што ў ім заўжды былі нейкія "нетутэйшыя" элегантнасць, выхаванасць і неверагодная харызма.

### Спевы

Праца вучонага, даследчыка, гісторыка літаратуры немагчыма без магутнага інтэлекту, паглыбленасці ў кнігі. Але спадар Мушынскі, думаю, ніколі не нагадваў калегам вучонага-"сухара", занятага толькі працай. Вельмі моцны быў у бацькі артыстычны пачатак. Дзве гэтыя сферы гарманічна ўраўнаважвалі адна адну.

Многія сябры згадваюць, як выдатна, па-майстэрску ён распавядаў анекдоты, якіх ведаў шмат. З якой ахвотай і захапленнем спяваў. Падчас вечарын, на дарозе са святаў паэзіі ці фестываляў. Бацька ведаў шмат народных песень, сярод іх любімай была "Ой, сівы конь бяжыць". Яна атрымлівалася ў яго эпічнай, магутнай, з адценнем незразумелай журбы. З гумарам і імпэтам узнаўляў ён часам і паўблатны шансон – кшталту "Шаланды, полные кефали" ці "Цыганка старая гадала правильно, дорога дальняя в казенный дом". У 1980-я, калі вялікую папулярнасць набылі песні Булата Акуджавы (у доме меласі шмат яго пласцінак), любіў слухаць і спяваць тыя песні. "Дачушка, давай разам "Виноградную косточку"!" – часам прапаноўваў бацька.

### Доктарская і Іван Антановіч

Міхась Іосіфавіч досыць рана абараніў доктарскую, у 1978-м, калі яму не споўнілася і 50-ці. У савецкі час абарона адбывалася там, дзе вучоны працаваў, а зацвярджэнне – у Маскве. Асновай доктарскай зрабілася агромністая, унікальная манаграфія "Беларуская крытыка і літаратуразнаўства: 1920–1930-я гады". Праца над ёй ішла і на маіх вачах. Памятаю, як бацька абмяркоўваў з маці, таксама філолагам, маніфесты розных літаб'яднанняў. Аўтару неабходна было паглыбіцца ў складаную ідэйную барацьбу, якая разгарнулася ў той час, асэнсаваць дагматычныя і вульгарызатарскія падыходы тагачасных крытыкаў (у тым ліку сумнавядомага Бэндэ), што зрабіліся грунтам і апраўданнем шматлікіх даносаў, а потым і рэпрэсій супраць айчынных пісьменнікаў.

Зусім нядаўна трапілася на вочы цытата 1975 года. Фрагмент з ліста, які даслаў Янку Саламевічу ў Мінск Уладзімір Дубоўка, выдатны паэт, рэпрэсаваны ў 1930-я, які ацалеў у сталінскім ГУЛАГу і вярнуўся адтуль, праўда, не ў Беларусь, а ў Маскву. Дубоўка, вартаючы Саламевічу згаданую кнігу, напісаў: "Здзіўляюча мізэрны тыраж (1200!!!). А кніга і цікавая, і каштоўная. Накопт другога тыражу, пэўна, і думаць не даводзіцца… Аўтар – выдатны вучоны і не менш выдатны працаўнік. Прарабіў ён сапраўды Геркулесаву работу па расчыстцы "Аўгіевых стайняў" – літаратурных узаемаадносін 1920–1930-х гадоў. Ягоныя каментарыі – тлумачэнні на вышыні сучаснай навукі і (наколькі магчыма) аб'ектыўныя". Такія высокія ацэнкі непасрэднага ўдзельніка літаратурнага працэсу каштоўць вельмі дорага.



Міхась Мушынскі з жонкай Тамарай Фёдараўнай і ўнукамі Ягорам і Дзянісам.

Але вярнуся да зацвярджэння дысертацыі. Кніга напісана па-беларуску. Каб дасланць дакументы ў Маскву, трэба абавязкова перакласці яе на рускую. Маці з бацькам разам зрабілі тую велізарную працу. Адаслалі дакументы, чакалі. Напэўна, моўчкі нервавалiся. Бо ў саюзнай Вышэйшай атэстацыйнай камісіі (ВАК) збіраліся не толькі афіцыйныя водгукі. Калянавуковыя легенды сведчаць: прадстаўнікі больш багатых рэспублік ехалі ў сталіцу з каньякамі і вэнджанымі кумпякамі, а беларусы чамусьці пераўзыходзілі ўсіх па колькасці ананімак.

У тыя гады дактароў навук меласа мала, таму іх грамадскі рэйтынг быў надзвычай высокі. Калі Масква зацвердзіла тваю доктарскую, гэта штосьці незвычайнае. Ты – выбраннік лёсу! Амаль як славуты артыст або касманаўт. Пасля таго як Мушынскі стаў доктарам навук, было агучана шмат прэстыжных прапаноў. Прапаноўвалі (не ведаю, афіцыйна ці не) пасаду галоўнага рэдактара пісьменніцкай газеты "Літаратура і мастацтва". Прапаноўвалі стаць рэктарам тады яшчэ Інстытута культуры.

Але бацька адмовіўся. Усё жыццё ён хацеў займацца навукай. Любіў цішыню чытальнай залы ў бібліятэцы, цішыню ўласнага невялікага кабінета ў Акадэміі навук. Для некага доктарская і навука – у чымсьці вымушаны занятак, прыступка, неабходная ўмова, каб заняць пэўную пасаду і мець зыйшэйшыя выгоды, якія з ёй звязаны. Для бацькі навука была не сродкам, а мэтай і сэнсам.

Ён усведамляў неабходнасць новых, больш сучасных падыходаў да інтэрпрэтацыі спадчыны XX стагоддзя, грунтоўнага вывучэння класікі. Аднойчы бацька распавёў, як за савецкім яшчэ часам выправіўся ў ЦК да загадчыка аддзела культуры Івана Антановіча. Каб пераканаць таго, што наспеў час заняцца і выдаць больш поўны Збор твораў Якуба Коласа. Выяўлены новыя творы і іх рэдакцыі, дакументы, лісты. Гэта праграма дзейнасці на многія гады. Праграма дзяржаўная, падобныя рашэнні прымаліся на ўзроўні ЦК ці Савета Міністраў. Антановіч уважліва выслухаў, ідэю падтрымаў. А напрыканцы размовы здзіўлена дадаў:

– Усе прыходзяць у ЦК, каб штосьці прасіць выключна для сябе. А вы прыходзіце, каб грунтоўна выдаць спадчыну Якуба Коласа.

Але ў гэтым быў увесь бацька.

Магістральнымі тэмамі навуковай дзейнасці Мушынскага была творчасць Якуба Коласа, Максіма Гарэцкага і Міхася Зарэцкага. Двум паэмам Коласа – "Новая зямля" і "Сымон-музыка" – была прысвечана яго першая манаграфія. Тыя паэмы ён ведаў на памяць страфамі, мог цытаваць пры любой нагодзе. Сам ён часам нагадваў мне Сымона-музыку, творцу, пацалаванага Богам, які чуе боскую музыку, але сустракае на сваім шляху надта цяжкасцей і перашкод.

У 1982-м, да 100-годдзя з дня нараджэння песняра, тата выдаў "Летапіс жыцця і творчасці Якуба Коласа". Там было 540 старонак – на шыкоўнай паперы, у штапельным пераплёце, з супервокладкай і мноствам ілюстрацый. У новым стагоддзі задумаў 2-е выданне, дапоўненае з улікам новых дакументаў, таго, што адкрылася ў архівах. Новы "Летапіс" (2013) атрымаўся не томам, а таміной, меў больш за 1100 старонак. Гэта па сутнасці энцыклапедыя, створаная адным чалавекам.

Дзве бацькавы кнігі прысвечаны Зарэцкаму, грунтоўная манаграфія – Гарэцкаму. Як навукоўца Мушынскі лічыў справай свайго жыцця аднавіць гістарычную і літаратурную справядлівасць. Вярнуць культуры творы рэпрэсаваных пісьменнікаў, чые жыцці абарваліся ў самым росквіце. Класікаў, якія маглі яшчэ столькі зрабіць для сваёй краіны. Іх трагічны і горкі лёс бацька ўспрымаў як асабістую знявагу, абразу, крыўду, а іх – як блізкіх і родных людзей. Міхась Іосіфавіч шмат гадоў скрабаваў і перапісваўся з Галінай Максімаўнай, дачкой Максіма Гарэцкага. Каштоўныя фрагменты яе ўспамінаў спатрэбіліся потым, каб дэталёва аднавіць багатую біяграфію пісьменніка. У Мінску ёсць агромністая вуліца Гарэцкага, якую наўрад хто здолее перайменаваць, – гэта заслуга многіх, але і бацькі. Бо трэба прыкласці шмат намаганняў, каб змяніць грамадскую думку. Пераканаць чытача ў маштабнасці пісьменніка, увесці ў пантэон класікаў.

### Будні, святы і «нетленка»

У 2011-м Акадэмія навук выдала кнігу бібліяграфіі Мушынскага. У ёй пералік манаграфій (іх 13), раздзелаў у калектыўных манаграфіях (31), а таксама артыкулаў, рэцэнзій, прадмоў (іх 312). Зборнік займае 100 старонак дробным шрыфтам. Як можна было ўсё гэта напісаць?! Спачатку ад рукі, вычытаць машынапіс ці набор, потым карэктуру. Артыкул – кароткая дыстанцыя, а кніга ў 300 ці 500 старонак – марафон. Аб'ём зробленага ім і сёння здаецца нерэальным і абсалютна незразумелым.

Свае артыкулы бацька заўжды пісаў ад рукі. Прычым почырк у яго не ідэальны, не радасна-круглы, настаўніцкі, як мамін. На аркушах бацькавых рукапісаў шмат вострых вуглоў. На мой погляд, почырк не заўсёды чытэльны. Але мама разбірала, як і машыністкі. Бацька і машынкай пішучай не авалодаў, а потым за камп'ютар не сеў.

Усё жыццё ён насіў акуляры, імкнуўся берагчы зрок, без якога – ні чытаць, ні пісаць. На пачатку 2000-х маці досыць хутка авалодала камп'ютарам, а таксама сканерам, электроннай поштай, скайпам. Без такой дапамогі многія кнігі бацькі проста не давеў бы да друку. Аднойчы я пажартавала: "Татка, добра табе, калі літаратурны сакратар – кандыдат педагагічных навук. Шанцуе некаторым!"

Бацька ніколі не пісаў хутка. Доўга абдумваў, тэкст узнікаў марудна. Таго патрабуе аналітыка, разгляд не толькі асобных твораў, але і працэсаў, якія адбываюцца ў літаратуры. Пісаў няспешна, у выніку ў яго тэкстах заўжды ёсць глыбіня прачытання задум, вобразаў, канфліктаў. Мне здаецца, тую глыбіню ён шукаў заўсёды – у творах і ў людзях.

Ён ніколі не сядзеў за сталом па начах, каб да раніцы скончыць абзацнае. Мог у маладыя гады – да 2–3 ночы. Але гэта не было правілам, сістэмай. А вось выхадныя, святы, частку адпачынкаў выкарыстоўваў як час для навуковай працы. Прыклад. Выхадны, вечар. Бацькам у Зялёны Луг тэлефануе Галіна Шаблінская, адна з лепшых вядучых Беларускага радыё.

– Тамара Фёдараўна, а можна Міхасія Іосіфавіча пачуць? Хачу яго на перадачу запрасіць.

Мама са смехам адказвае:

– Галіна, пакуль не прыйшоў. Сядзіць на працы ў сваім кабінеце. "Нетленку" гоніць...

Яно як быццам і гумар. Але і каліва праўды. А мо і не каліва?

Бацька ганарыўся: яго кнігі пра крытыку сталі асновай універсітэцкіх курсаў. Яго артыкул у штотыднёвіку "ЛіМ" пра аповесць Васіля Быкава "Кар'ер" высока ацаніў пісьменнік. Янка Брыль спадабаліся яго ўспаміны пра ваенное дзяцінства. Справай жыцця тата лічыў вывучэнне творчасці нацыянальнага класіка Якуба Коласа. Ганарыўся, што шмат гадоў кіраваў сектарам тэксталогіі і разам з калегамі рыхтаваў Поўныя зборы твораў М.Багдановіча, Я.Купалы, Я.Коласа, М.Гарэцкага, К.Чорнага, М.Зарэцкага, І.Мележа. Тамы былі грунтоўна пракаментаваны, мелі прадмовы і пасляслоўі. Кожны дасведчаны чалавек разумее: падобныя выданні – грунт нацыянальнай культуры. Прыкмета цывілізаванай нацыі – такая як наяўнасць энцыклапедый, опернага тэатра ці нацыянальнага музея. За паўгода да свайго сыходу бацька сказаў нам з маці: "Важнае ўсё, што вы робіце (*маці – аўтар падручнікаў і дапаможнікаў па літаратуры для школы. –* **Т.М.**). Але я працую для будучыні…"

### Шэдэўры – у закутку

Калі чалавеку, не знаёмаму з рэаліямі сучаснага літаратурнага ці навуковага жыцця, пералічыць пасады і тытулы Мушынскага, ён падумае: такія людзі, пэўна, у палацах жывуць, а вакол іх пакаёўкі бегаюць. А калі не ў палацы, дык у сучаснай кватэры з дызайнерскім рамонтам. Расчарую: бацькі пражылі амаль паўстагоддзя ў Зялёным Лузе, у "хрушчоўцы", дзе кухня – 2,5 на 2,5 метра і там не павярнуцца. Ізаляваных пакояў няма. Падлога з пліт ДСП рыпіць, чуваць, як ходзяць суседзі на наступным паверсе. У такіх умовах, у прахадным пакоі і пісаліся манаграфіі. Выдатныя кнігі, якія лічацца амаль класікай літаратуразнаўства.

Хтосьці запярэчыць: цяпер капіталізм, і кожны мусіць клапаціцца пра ўмовы ўласнага жыцця. Згодна. Але заўжды дзіўлюся, што людзі, маючы меншы талент і творчы размах, больш спрытна і ўтульна ўладкоўваюцца ў рэальнасці. Бацька заўжды спяшаўся выканаць тую агромністую, маштабную задачу, якую ён сабе акрэсліў, і не хацеў марнаваць дарагі час свайго адзінага жыцця на побытавыя клопаты. Усе мае памкненні хоць нейкім чынам палепшыць іх паўсядзённы побыт сустракалі рашучае супраціўленне. Маці з усмешкай заўважала: "Дачушка, не трэба! У нас, як у Грэцыі, усё ёсць!"

### Маштаб

Творчае доўгажыхарства – рэч надзвычай прывабная. Размаўляем з маці пра тое, што творчы імпэт рухае людзей да пэўнага ўзросту. Пазней узнікае больш скептычны погляд на свет. Маці, выслухаўшы, кажа:

– Не зусім з табой згодна. Глядзі, свае асноўныя кнігі Міхась напісаў пасля 60 гадоў. У 1990-я і пазней...

Больш за тое. Бацьку было больш за 75, калі ў 2007-м ён выдаў кнігу "Тэксталогія твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа", дзе меласа 400 старонак. У 2008-м з'явілася манаграфія "Падзвіжнік з Малой Багацькаўкі" пра Гарэцкага ў 500 старонак, праз два гады – "Мае Каласавіны" (400 стар.).

Некаторыя назвы артыкулаў ці кніг цяпер, пасля сыходу бацькі, успрымаюцца інакш. "Ахвярую свaім "Я" ва імя святога ўсім нам Адраджэння" – цытата Максіма Гарэцкага. Але ў адпаведнасці з такім тэзісам і бацька будаваў уласнае жыццё. "Падзвіжнік з Малой Багацькаўкі" – назва кнігі пра Гарэцкага. Але пра Мушынскага таксама. Бо і ён падзвіжнік. Толькі з вёскі Мокрае. Нарыс жыцця і творчасці Якуба Коласа, які папярэднічаў Збору твораў у 20 тамах, меў назву "Свайму часу і вечнасці". Сімвалічна, ці не праўда?

На думку калег, пісьменнікаў, музейных супрацоўнікаў, журналістаў, Мушынскі – такая маштабная асоба, што яго навуковую спадчыну яшчэ доўга будуць асэнсоўваць. Да яе звяртацца. Яна будзе запатрабавана, пакуль жыва айчынная літаратура. Такія людзі не знікаюць без усялякага следу. Яны застаюцца. Згадваю бунінскі радок: "Из древней тьмы, на мировом погосте, звучат лишь Письмена". Зморчна, але і справядліва.

### Фантасмагорыя

У той дзень, калі бацька памёр і асноўныя сайты краіны пра гэта напісалі, у наступныя дні бясконца тэлефанавалі і выказвалі спачуванне – маці і мне. Потым была паніхіда на вуліцы Альшэўскага, дзе сабралася шмат калег, сяброў, сваякоў. Былі вянкі і агромністыя букеты кветак. Адпяванне і слёзы. Словы пра страту, якую панесла беларуская культура. Потым Маскоўскія могілкі, пахаванне, жалобны абед. І ўвесь час не пакідала адчуванне, што гэта дурны сон. Невядома кім прыдуманая дзікая фантасмагорыя.

Тая недарэчнасць і глупства хутка скончыцца, мы вернемся дадому. Калі бацькі там пакуль няма, значыць, ён затрымаўся ў бібліятэцы або не прыйшоў са сваіх любімых Коласаўскіх чытанняў. Бо такія моцныя духам людзі не могуць знікнуць проста так. Ён адкрые дзверы ключом. Скажа:

– Ой, дачушка, як добра, што ты да нас прыехала! Томачка, я галодны. Можа, ты мяне пакорміш?

Маці з радасцю адкажа:

– Вядома, Міхаська!

А бацька дадасць:

– А зараз я раскажу вам новы анекдоцік!

**Таццяна МУШЫНСКАЯ.**

МЕДДАВЕДКА

### Колькасць абортаў скарачаецца

У 2017 годзе беларускія медыкі налічылі 25.249 выпадкаў перарывання цяжарнасці. Гэта найменшы паказчык за час падлікаў. За год колькасць абортаў зменшылася на 2200. Раней сітуацыя была значна горшая. Параўнайце: яшчэ ў 2005 годзе фіксавалася амаль 65 тысяч абортаў!

Паводле статыстыкі, летась аборты зрабілі 8 дзяўчат узростам да 15 гадоў. І гэта таксама гістарычны мінімум.

ЧУЛІ?

### Польшча – рэкардсмен у выдачы шэнгенскіх віз

– Летась польскімі консульствамі ў Беларусі было выдадзена 418 тысяч віз, – паведаміў амбасадар Польшчы ў Беларусі **Артур Міхальскі**, – гэта больш за палову шэнгенскіх віз, якія выдаюцца ў Беларусі, і гэта тэхнічная мяжа нашых магчымасцяў. Мы папрасілі беларускі бок дазволіць павялічыць штат консулаў. Пакуль рашэння няма, нягледзячы на тое, што попыт на візы расце. Гэта даўняя праблема, трэба падыходзіць да яе вырашэння.

АБИТУРИЕНТ-2018

### Результат выше, чем в 2017 году

Уже известен результат по трем экзаменам ЦТ. И в каждом случае они выше, чем в прошлом году.

Так, средний балл за ЦТ по белорусскому языку составляет почти 36 баллов (в 2017 году было 34 балла). По русскому – 37,67 против 34,64 в прошлом году. Средний балл за тест по обществоведению составил 43,73. Цифра не намного, но выше, чем прошлогодняя – 41,76.

СТОЛИЦА

### Около 3 тысяч штрафов за 3 месяца

*Минская ГАИ вычисляет нарушителей парковки новым методом*

В этом им помогает мобильный аппаратно-программный комплекс (АПК) «ПаркРайт», пишет агентство «Минск-Новости». Приборы столичная ГАИ стала активно использовать в марте нынешнего года. С этого времени горожанам отправлено около 3 тысяч постановлений о наложении административного взыскания.

– В распоряжении столичной Госавтоинспекции 10 таких приборов, – информирует сотрудник ГАИ.

В столице около 35 зон, где ведется контроль с помощью АПК. В частности, это улица Уманская на участке от проспекта Дзержинского до улицы Железнодорожной, проезжая часть вокруг Комаровского рынка, Привокзальная площадь. Партизанский проспект возле станции метро «Могилевская», улица Притыцкого в районе Кунцевщины и Каменной Горки. И список проблемных участков только расширяется.

ЧУЛІ?

# Шэндэровіч не выступіць у Мінску



***Расійскі грамадскі дзеяч і журналіст Віктар Шэндэровіч напісаў на сваёй старонцы ў Facebook, што не атрымаў дазволу на творчую вечарыну ў Канцэртнай зале «Мінск». Сустрэча з гледачамі была запланавана на 28 кастрычніка.***

*«Мае восеньскія выступленні ў Беларусі адмяняюцца. Атрымаць канцэртны дазвол з прэзідэнцкай Адміністрацыі аказалася справай немагчымай»*, – паведаміў **Віктар Шэндэровіч**.

Арганізатарам гастроляў выступала Брэсцкая абласная філармонія. Там пацвердзілі адмену канцэрта па незалежных ад іх прычынах і пачалі вяртаць грошы за набытыя квіткі. Дагэтуль канцэрты Шэндэровіча праходзілі без праблем. Іншыя вядомыя расійскія журналісты – Познер, Салаўёў – не сутыкнуліся з забаронай у Беларусі.

ГУЧНАЯ СПРАВА

# Да 6 гадоў турмы?

*Працэс над бізнесменам Аляксандрам Кныровічам і яго калегамі па «СарматТэрма-Інжынірынг» набліжаецца да завяршэння. Пракурор просіць прызначыць фігурантам ад 3 да 6 гадоў пазбаўлення волі.*

Паводле версіі следства, супрацоўнікі «СарматТэрма-Інжынірынг» недаплацілі ў казну 3,374 мільёна рублёў.

Самае вялікае пакаранне дзяржабвінаваўца просіць прызначыць Аляксандру Кныровічу: 6 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці і забаронай займаць распарадчыя пасады на працягу 5 гадоў. Астатнім – ад трох да чатырох гадоў папраўчай калоніі ва ўмовах узмоцненага рэжыму.

АСАБІСТЫ ПОГЛЯД

# Адкуль дзьме вецер на Курапаты…

Хто-ніхто, прачытаўшы мой допіс, скажа: “Спадар Чахольскі, як і ўсе паплечнікі Пазьняка, у любых беларускіх праблемах бачыць “руку Масквы”. Такім апанентам я адкажу: так, агентура расійскіх спецслужб не спіць, і дзейнічае яна ў нас, вядома ж, не на карысць нашай краіны. Вось і падзеі апошніх дзён паказваюць, што Лубянка не адмаўляецца ад спроб знішчыць народны мемарыял Курапаты. І не адмовіцца, пакуль існуе гэта імперыя на ўсходзе. На мой погляд, цынічнае, антымаральнае адкрыццё рэстаранна-забаўляльнага комплексу “Паедзем паядзім” з лазняй-саўнай, дамкамі для адпачынку, дзіцячай пляцоўкай, вялікім рэстаранам з музычна-танцавальнай пляцоўкай, разгорнутай у бок Курапатаў, – адна з такіх спроб.

Пры гэтым пераследуецца некалькі мэт.

1.Сутыкнуць на міжнацыянальнай глебе яўрэяў і беларусаў, бо ўладальнікамі рэстаранна-забаўляльнага комплексу з’яўляюцца яўрэі з розных краін свету. Выклікаць хвалю антысемітызму. Хаця гэта не здымае віну з гэтых уладальнікаў за тое, што яны нарабілі. Дарэчы, мы, сябры Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі, рыхтуемся да ўстаноўкі помніка беларускаму яўрэйскаму паэту Ізі Харыку.

2.Выклікаць грамадскі пратэст, праводзіць рукамі міліцыі рэпрэсіі супраць пратэстоўцаў, што мы і назіраем. Міліцыя складае пратаколы на людзей, якія выйшлі бараніць нацыянальную святыню і чалавечую годнасць.

3.Праз адцягненне ўвагі на змаганне ўлезці ў цэнтр створанага народнага мемарыяла Курапаты з разбуральным праектам, які можа быць хітрым чынам навязаны нашым уладам.

4.Відавочна, што эканамічнай мэтазгоднасці пабудовы са шматлікімі парушэннямі таго комплексу на гектары зямлі не праглядаецца. Узнікае пытанне: што за гэтым стаіць? Карупцыя, адмыванне грошай праз афшоры? Я лічу, што за ўсім стаіць Лубянка.

5.Дыскрэдытацыя асоб і арганізацый, якія каля 30 гадоў займаюцца добраўпарадкаваннем і стварэннем народнага мемарыяла Курапаты. Як гэта выглядае? Праз пэўны час пасля пачатку пратэстаў у прэсе раптам з’яўляецца аб’ява аб нейкім плане Чахольскага–Дашкевіча. Хаця ніякага плана не існуе, а была прапанова Зміцера аб размеркаванні дзён тыдня паміж людзьмі для ўдзелу ў пратэстных мерапрыемствах насупраць уваходу ў рэстаранна-забаўляльны комплекс. Хачу падкрэсліць, што гэта грамадскі мірны пратэст і ў ім удзельнічаюць грамадзяне незалежна ад прыналежнасці да той ці іншай партыі, грамадскіх рухаў, арганізацый і г.д. Шмат людзей наогул ні ў якіх арганізацыях не ўдзельнічаюць і прыйшлі бараніць гонар нацыі па ўласным жаданні, зыходзячы са свайго сумлення.

3 чэрвеня 2018 года на мітынгу, прысвечаным Дню памяці пра генацыд – 30-годдзю адкрыцця праўды пра Курапаты, Зянон Пазьняк папярэдзіў пра існаванне плана застрахаваць гэтую рэстарацыю і затым спаліць. Праз некаторы час у інтэрв’ю Радыё Свабода Зміцер Дашкевіч кажа, што спаліў бы гэтую ўстанову, але ў яго сям’я. Можна было б зразумець, што гэта быў усплёск звычайных эмоцый, калі б не працяг. Звярнуў я ўвагу і на словы Ліі Ахеджакавай, што могуць знайсціся людзі з пагранічным станам псіхікі і гэтую забудову спаляць.

І вось паспрабавалі зляпіць кандыдата на ахвяру. Мушу назваць прозвішча і імя гэтага хлопца, каб абараніць яго ад гэтай правакацыі, – Дзяніс Урбановіч з Лагойшчыны. А што? Асуджаны за пратэст на выбарчым участку, пад прэвентыўным наглядам, “схільны да экстрэмізму”, як прыпісвае яму міліцыя. 15 чэрвеня пад відэазапіс, які вядзе супрацоўнік спецслужб, той жа Зміцер Дашкевіч прапануе Дзянісу спаліць рэстаран, сесці гадоў на дзесяць у турму, а ён, Дашкевіч, будзе сала яму перадаваць. Можна сказаць, пажартаваў перад камерай аператыўніка. Але Дзяніс успрыняў усё сур’ёзна, зразумеўшы, што ідзе маштабная падрыхтоўка правакацыі супраць яго, і пра тое, што адбылося, распавёў многім людзям. Прыходзіцца ўмешвацца і абараняць хлопца.

Яшчэ адным з дадаткаў да гэтых планаў спецслужб з’яўляецца тое, што ў асяродку міліцыі і кадэбэшнікаў, як прагаварыўся адзін з “ціхароў”, запушчана інфа, што “тут (каля брамы комплексу) сабраліся педафілы і бамжы”.

Вось і вымалёўваецца, як кажуць, карціна алеем, – пад што падводзяць расійскія спецслужбы. Выснова такая: паказаць сумленных людзей, абаронцаў нацыянальнай святыні зборам набрыдзі, схільнай да розных непрадказальных дзеянняў.

Разумеючы шкоду такіх планаў, заяўляю, што грамадская дырэкцыя народнага мемарыяла Курапаты ў падрыхтаваным сцэнарыі не будзе ўдзельнічаць і зробіць усё, каб яны былі сарваны. Мы працягваем работу па добраўпарадкаванні і доглядзе нашай Курапацкай святыні згодна са сваімі хрысціянскімі поглядамі.

**Алесь ЧАХОЛЬСКІ,**
**кіраўнік грамадскай дырэкцыі народнага мемарыяла Курапаты.**

***P.S.*** *Пакуль рыхтаваўся гэты артыкул, як чэрці з табакеркі пачалі выскокваць асобы, якія спрыялі незаконнай пабудове і замацаванню тэрыторыі за рэстаранна-забаўляльным комплексам. Як кажа расійская прымаўка, “на воре и шапка горит”.*




ВАНДРОЎКА

# Гэтым летам вы маеце ўнікальную магчымасць наведаць незвычайную краіну – Грузію!

*Грузия – гэта адно з тых месцаў, якое павінен наведаць кожны хоць адзін раз у сваім жыцці.*

Неверагодная прыгажосць мясцовых гор і старадаўніх цэркваў, выдатныя краявіды, цудоўнае мора, шыкоўная нацыянальная кухня, яркія грузінскія танцы, нацыянальныя песні – гэта толькі малая частка той асаблівай атмасферы, якая пануе ў гэтай краіне.

Багатая гісторыя і традыцыі абавязкова пакінуць незабыўныя ўражанні ў вашай душы.

## Piligrymka.by прапануе новы погляд на падарожжа ў Грузію.

Вас чакае насычаная экскурсійная праграма, а таксама адпачынак на моры ў Батумі!

Прамы рэйс з Мінска авіякампаніяй “Белавія”, транспартнае абслугоўванне ў Грузіі, якасныя гатэлі, двухразовае харчаванне, суправаджэнне групы дыпламаваным гідам і добрая кампанія дапамогуць зрабіць ваш адпачынак максімальна камфортным.

Грузія з **Piligrymka.by** – падарожжа, поўнае адкрыццяў!!! Далучайцеся да нас з ***12 па 20 жніўня 2018 года***.

**Кошт тура – 1550 бел. рублёў. Толькі зараз кошт для дваіх – 2770 бел. рублёў.**

## Праграма

***1-ы дзень, 12 жніўня***

**22.50** – вылет з Мінска.

***2-і дзень, 13 жніўня***

**02.50** – прыбыццё ў Тбілісі. Трансфер. Размяшчэнне ў гатэлі.

**09.00** – сняданак.

**10.00** – аглядная экскурсія па Тбілісі:

– ***манастыр Андрэя Першазванага*** (Лурджы манастэры) XII ст.; збудаваны ў эпоху царыцы Тамары храм Іаана Багаслова (XIX–XX стст.); храм размешчаны на месцы галоўнага храма манастыра Святога Іаана (VII ст.);

– ***храм Аляксандра Неўскага***, магілы глінскіх старцаў; наведванне кафедральнага ***сабора Святой Тройцы*** – Цмінда Самэба, сімвал сучаснай Грузіі і самы высокі храм краіны.

– ***Аўлабар***, адзін з самых старажытных раёнаў Тбілісі;

– ***парк Рыке***, размешчаны на месцы, дзе, паводле падання, легендарны цар Вахтанг Гаргасал (Ваўкагаловы), які правіў у V стагоддзі, падчас палявання збіў стралой фазана. Птушка ўпала ў гарачую крыніцу. Цар здзівіўся, што з зямлі цячэ гарачая вада, назваў мястэчка «Тбілісі» (ад слова «тбілі» – цёплы);

– ***Метэхі***, гістарычны раён Тбілісі, дзе зараз знаходзіцца помнік Вахтангу Гаргасалу і храм Успення Багародзіцы (XIII–XVI стст.). Пад скляпеннямі храма пахавана першая грузінская пакутніца – царыца Шушаніка Ранская, забітая мужам-вогнепаклоннікам у V стагоддзі н.э.;

– ***Музей мастацтваў Грузіі***, дзе захоўваюцца святыя рэліквіі Грузіі – Хахульская, Цылканская, Ацкурская іконы Маці Божай, Анчыйскі нерукатворны абраз Ісуса Хрыста і многае іншае;

– ***Пантэон*** на гары Мтацмінда (***уздым на фунікулёры за дад. плату***), дзе пахаваны многія з вядомых пісьменнікаў, артыстаў, навукоўцаў і нацыянальных герояў Грузіі, ***царква Святога Давіда*** «Мамадавіці» (XIX ст.), тут у VI стагоддзі пражываў Святы Давід Гарэджскі;

– вольны час на абед;

– ***царква Анчысхаці*** (VI ст.) – храм Раства Багародзіцы. З’яўляецца адной з самых старажытных пабудоў і самым старым з храмаў, што захаваліся ў Тбілісі. Храм атрымаў назву Анчысхаці пасля 1664 г. у гонар цудатворнага абраза Збаўцы (Анчыйскі Спас), які перанеслі сюды з Паўднёвай Грузіі, ратуючы ад туркаў. У царкве Анчысхаці абраз захоўваўся прыкладна 200 гадоў. Затым ён быў перанесены ў Музей мастацтваў Грузіі;



– ***Сабор Сіёні*** (XII ст.) – да 2006 года быў Кафедральным саборам Грузіі. Ён названы Сіёнскім у гонар Успенскага храма на Сіёнскай гары ў Іерусаліме, тут захоўваецца крыж Святой Ніны;

– ***крэпасць Нарыкала*** (IV–XVIII стст.) (***уздым на канатнай дарозе за дад. плату***) – комплекс умацаванняў розных эпох, гараджане называюць Нарыкала «душой і сэрцам горада»; вулачкі старога горада, серныя лазні, Легбтахеві – Інжыравая цясніна і вадаспад.

**19.00** – вячэра. Вольны час. Магчымасць прагуляцца па вячэрнім Тбілісі або наведаць серныя лазні. Начлег.

**3-і дзень, 14 жніўня**

**08.00** – сняданак.

**09.00** – выезд на экскурсію ў ***Кахецію*** (***праграма дня залежыць ад умоў надвор’я і дарожных умоў !!!***):

– ***Гарэджыйская пустыня***: улетку тут бывае спякота да 50 градусаў у цені, а ўзімку – мароз да 30. Калісьці мясцовасць называлі “грузінскай Фіваідай” па падабенстве манаскай Фіваіды ў старажытнахрысціянскім Егіпце. Тут месціліся 12 буйных пячорных кляштараў і мноства адасобленых келляў. Комплекс Давыд-Гарэджы ўяўляе сабой некалькі манастыроў у пячорах, заснаваных асірыйскімі бацькамі ў VI стагоддзі. Лаўра Святога Давіда лічыцца галоўным манастыром комплексу і ўяўляе сабой келлі ў скале, якія разам утвараюць па форме крыж. У царкве Пераўтварэння Гасподняга размешчана пахавальня самога Давіда Гарэджыйскага. Наведванне сыраварні з дэгустацыяй сыроў або Алазанскай даліны.

– ***Ікалта*** (VI–XIII стст.) – манастырскі комплекс, адзін з самых старажытных у Грузіі, храм Святой Тройцы, храм Святога Духу (VI ст.), Храм Успення Багародзіцы (XII–XIII стст.). Акадэмія Ікалта знакамітая тым, што тут, паводле падання, вучыўся выбітны грузінскі паэт XII стагоддзя Шата Руставэлі;

– ***Грэмі*** – архітэктурны помнік XVI стагоддзя, старажытная сталіца Кахецінскага царства, царква Архангелаў Міхаіла і Гаўрыіла.

– ***манастыр Алавердзі*** (VI ст.) – манастыр заснаваны ў VI стагоддзі Іосіфам Алавердскім, адным з заснавальнікаў манаства ў Грузіі, сабор Св.Георгія быў збудаваны на месцы маленькай аднайменнай царквы ў XI ст.;

– ***манастыр Некрэсі*** (IV–IX стст.), заснаваны адным з асірыйскіх айцоў Або Некрэскім, самая ранняя пабудова – невялікая царква канца IV ст., збудаваная неўзабаве пасля абвяшчэння хрысціянства афіцыйнай рэлігіяй дзяржавы. У VI–VII стст. збудаваны галоўны храм Найсвяцейшай Панны, які захаваў фрагменты насценных надпісаў і фрэсак XVI стагоддзя. У комплекс уваходзяць царква (IX ст.) і епіскапскі палац (XVI ст.). Наведванне вінакурні з дэгустацыяй віна;

– ***манастыр Бадбэ*** (IX–XIX стст.), дзе спачывае Святая роўнаапостальная Ніна, асветніца Грузіі, цудадзейная крыніца Св.Ніны. Вяртанне ў Тбілісі.

**20.00** – вячэра. Начлег.

**4-ы дзень,** 15 жніўня

**08.00** – сняданак.

**08:30** Выезд на экскурсію **Анануры–Стэпанцмінда** (Казбегі):

– ***крэпасць Анануры*** (XIII–XVII стст.), грала значную ролю ў шматлікіх войнах паміж мясцовымі феадальнымі князямі – эрыставамі і за сваю гісторыю ні разу не была ўзята штурмам; Успенскі храм (XVII ст.);

– ***Жынвальскае вадасховішча***, якое забяспечвае грузінскую сталіцу вадой і электрычнасцю. Рака Арагві, перакрыта плацінай вышынёй больш за 100 метраў;

– ***гарналыжны курорт Гудауры*** (2200 м) – самы малады і самы перспектыўны гарналыжны курорт Грузіі;

– ***Крыжовы перавал*** – перавал на Ваенна-Грузінскай дарозе на вышыні 2379 м праз Галоўны Каўказскі хрыбет;



– ***царква Найсвяцейшай Тройцы Гергеці*** (XIV ст.) – пабудавана на месцы пакланення паганскім ідалам, знаходзіцца на вышыні 2170 м над узроўнем мора. У XVIII ст. царква Гергеці стала сховішчам галоўных грузінскіх рэліквій, якія былі перавезены сюды падчас нашэсця персаў на Тбілісі;

– від на адну з найвышэйшых вяршынь Грузіі – ***гару Казбек*** (5033,8м);

– вольны час на абед. Вяртанне ў Тбілісі.

**20.00** – Вячэра. Начлег.

**5 дзень, 16 жніўня**

**08. 00** – сняданак.

**08.30** – высяленне з гатэля.

– ***пераезд Мцхета–Уплісцыхе–Батумі***. Мцхета, манастыр Св.Ніны Самтавро (IV– XI стст.) – у храме знаходзіцца мноства святынь, частка жыватворнага слупа, цудатворны абраз Іверскай Божай маці, цудатворны абраз Святой Ніны, магілы святых цароў Мірыяна і Наны, мошчы Святога Абібоса Некрэскага, мошчы святога Шыа Мгвімскага, частка каменя з магілы Святой Ніны з Бодбе і іншыя;

– ***сабор Светыцхавэлі*** (XI ст.), пабудаваны на месцы першага хрысціянскага храма ў Грузіі IV ст., які быў узведзены над магілай Св.Сідоніі. Сідонія памерла з Хітонам Гасподнім у руках і была з ім пахавана. Над магілай Сідоніі вырас кедр, з якога быў высечаны слуп для пабудовы храма. Слуп цудоўным чынам сам усталяваўся на месцы будучага храма і стаў міраструменіць. Храм назвалі “Светыцхавелі”, што ў перакладзе з грузінскай азначае “Жыватворны слуп”;

– ***Джвары*** – манастыр і храм Узвышэння Святога Крыжа VII стагоддзя. Згодна з паданнем, на гэтым месцы ў пячоры жыла Св.Ніна, якая папрасіла ў Госпада крыніцу гаючай вады. Пасля хрышчэння Грузіі тут святымі Нінай і царом Мірыянам у гонар праваслаўя быў узведзены драўляны крыж, што шанаваўся як цудатворны і даў назву гэтаму месцу;

– вольны час на обед.

– ***Уплісцыхе*** – адзін з самых рэдкіх помнікаў у свеце – найстаражытнейшы горад-крэпасць, высечаны ў вулканічных скалах. Упершыню згадваецца ў летапісе I ст. да н.э., а свайго росквіту дасягнуў к IX–X стагоддзям. Захавалася выбітная двухкалонная зала прыёмаў царыцы Тамар, жылыя памяшканні, вінасховішчы, часткі храмаў і сцен, патаемны падземны тунэль, царква Уплісцулі X–XI стст. н.э.



– пераезд у ***Батумі / Кабулеці / Гоніо / Урэкі.*** Засяленне ў гатэль.

**20.00** – вячэра. Начлег.

**6-ы дзень, 17 жніўня**

**08.00** – Сняданак.

Вольны час. Адпачынак на моры.

Факультатыўна: экскурсія ў горную Аджарыю з абедам; даліны рэк Чарохі і Аджарысцкалі; арачны мост часоў Царыцы Тамар (Махунцэці); вадаспад у Махунцэці; “Аджарскі вінны дом” у Кеда (***працягласць 6 гадзін, кошт 65 лары з чал.***).

**20.00** – вячэра. Начлег.

**7-ы дзень**, 18 жніўня

**08.00** – Сняданак.

Вольны час. Адпачынак на моры.

**14.00** – экскурсія ў ***Батумі***. Факультатыўна: наведванне Батанічнага саду (***уваходныя квіткі за дад. плату***) або шпацыр па вячэрнім Батумі, наведванне лазернага шоу фантанаў пасля вячэры.

**20.00** – вячэра. Начлег.



**8-ы дзень, 19 жніўня.**

**08.00** – сняданак. Вольны час. Адпачынак на моры.

**11.30** – Вызваленне нумароў.

**12.00** – пераезд у ***Кутаісі.*** Наведванне святых месцаў Кутаісі:

– ***манастыр Гелаці*** (XII–XIII стст.) – выдатны помнік грузінскага дойлідства, цэнтр духоўнага і навуковага жыцця сярэднявечча, пахавальня грузінскіх цароў, помнік сусветнай спадчыны ЮНЕСКА. Царква Успення Найсвяцейшай Багародзіцы, мазаікі і фрэскі XII–XVIII стст., царква Святога Мікалая Цудатворцы і храм Георгія Перамаганосца (XIII ст.); манастыр Мацамета (XI ст.) – манастыр Святых Давіда і Канстанціна, пабудаваны на месцы, дзе мусульманскія захопнікі пакаралі смерцю грузінскіх князёў Давіда і Канстанціна Мхеідзэ, якія адмовіліся прыняць іслам. Каўчэг з машчамі святых знаходзіцца ў галоўным храме манастыра;

– ***храм Баграці*** (X–XI стст.) – храм Успення Багародзіцы. Адзін з самых вялікіх храмаў у Грузіі і адзін з найважнейшых па сваёй гістарычнай ролі. Факультатыўна: нацыянальная вячэра з грузінскай праграмай (***ад 15 долараў з чалавека***). Майстар-класы падрыхтоўкі нацыянальных страў, прырода, шашлык, рыба, гародніна і садавіна, першакласнае хатняе віно ад мясцовых вінаробаў, грузінскі каларыт і настрой.

**19.00** – трансфер у аэрапорт Тбілісі.

**9-ы дзень, 20 жніўня**

**03.15** – вылет у Мінск.

**05.45** – прыбыццё.

## Запрашаем у ваша лепшае лета з Piligrymka.by!

**Каб узяць удзел у туры, патэлефануйце нам:**
**Velcom (29) 66-35-110,**
**МТС (33) 35-35-110.**

**З праграмамі пілігрымак вы можаце азнаёміцца на нашым сайце: www.piligrymka.by**

**Даведка пра арганізатараў тура**

Рымска-каталіцкая парафія Св. Язафата Кунцэвіча ў г.п.Расоны з’яўляецца афіцыйным арганізатарам паломніцкіх аўтобусных тураў па святых месцах Еўропы і авіятураў у Ізраіль на Святую Зямлю. Досвед працы ў арганізацыі пілігрымак больш за 10 гадоў. Сваіх прадстаўнікоў мае ў Мінску, Віцебску, Полацку і іншых гарадах Беларусі.

Арганізатары пілігрымак не маюць камерцыйных мэт.

Прыход Святога Язафата Кунцэвіча Віцебскай Епархіі Рымска-каталіцкай царквы ў РБ. УНП 300807447.

ИЗ ПОЧТЫ ГЛАВНОГО РЕДАКТОРА

# Из всей большой семьи я теперь одна на белом свете…

Выписываю вашу газету, читаю все, о чем пишут разные люди, и решила поделиться своей историей.

Прожила на свете 78 лет. Но за перо взялась впервые. И вот что к этому подтолкнуло. Каждый год наша страна отмечает День Победы. Не хочется говорить, но 9 Мая я не нахожу себе места. Люди радуются, а мне-то радоваться нечему.

В нашей семье было восемь детей. Я самая младшая, 1940 года рождения. Отец и три старших брата ушли на защиту Отечества, и никто не вернулся. А еще одного брата угнали в Германию. Он, правда, вернулся домой, но здоровья не имел. Его уже нет в живых.

На отца и старших братьев пришли извещения, что пропали без вести. Но потом о судьбе брата Володи мы кое-что узнали. Красные следопыты прислали маме фотографию памятника, под которым покоится его прах. Погиб он в день освобождения Кёнигсберга.

В Крупском районе в деревне Худовцы около административного здания воздвигнут обелиск погибшим воинам, там есть фамилии моих самых близких людей – отца, братьев.

Можете представить, какое горе свалилось на плечи нашей мамы, Варвары Кузьминичны. Осталась одна с четырьмя малолетними детьми. Жили мы тогда в деревне Езуфово. Ютились в колхозном складе, потом нас поселили в каком-то чужом доме.

В школу ходили в лаптях. Знали холод и голод. Ели преснаки из головок клевера и блины из мерзлой картошки, которую весной собирали с убранных осенью полей.

Из всех детей только я одна окончила 10 классов Худовецкой средней школы. В 1958 году поступила в Марьиногорский сельскохозяйственный техникум. В 1962 году окончила его и была направлена на работу в колхоз «Родина» Вилейского района экономистом, хотя я окончила агрономическое отделение. Вышла замуж и заочно продолжила учебу в Гродненском сельхозинституте. Работала на разных должностях, в том числе и агрономом. Сейчас имею букет болезней.

Из всей нашей большой семьи теперь на белом свете я одна. Живу в доме родителей мужа. Помогает соцработник.

Пенсионеры моего возраста – люди немощные, на двух-трех сотках еще кое-что выращивают, а основные огороды зарастают бурьяном, особенно борщевиком Сосновского. Звоню председателю сельсовета: мол, обратите внимание, рядом с моим домом брошенный участок, борщевик сравнялся с крышами домов. Семена распространились уже на мой участок. Пока имела здоровье, сбивала то косой, то лопатой. А сейчас не могу. Спрашиваю: кто должен вести борьбу с этим вредным растением? Она мне внятно ничего не сказала. Звоню в Вилейку в природоохранную инспекцию. Мне отвечают: мол, сегодня приезжают председатели сельсоветов и представители химзащиты, будем что-то решать. И правда: в этот же день на соседнем участке появился человек с опрыскивателем. Но когда я сказала, что надо и мой огород обработать, он сел в машину и уехал.

Замечу: зарастают всякой сорностью не только участки, но и местное кладбище. Некому обкашивать. По всей центральной улице три нормальных мужика. Говорят, в сельсовете числится специальный рабочий, но я его ни разу не видела.

И вообще, к сельсоветскому руководству есть претензии. Проводили водоснабжение. Никто не прошелся по домам и не рассказал, сколько будет стоить эта работа. Колодцы разместили только с одной стороны и то в основном там, где никто не живет уже много лет и не будет жить. Правильно это или нет, мы не знаем. Из всей деревни провели воду в дом только человек восемь вместе с дачниками.

Скажу прямо: если бы чиновники, большие и малые, в том числе и депутаты, выполняли как следует возложенные на них обязанности, многие вопросы решались бы гораздо лучше. Не было б у нас столько взяточников, воров и казнокрадов.

**Ядвига Борисовна НОВОСЁЛОК,**
**жительница д.Лыцевичи Вилейского района.**

